28 ЛІПЕНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№84 (615) КОШТ СВАБОДНЫ




ПАРТЫІ

## У суботу — з'езд БНФ

У гэтыя выхадныя будзе вырашацца лёс буйнейшай беларускай партыі — Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне»

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

Ад таго, чый бок зойме на з'ездзе большасць — Зянона Пазьняка ці кааліцыі яго ных праціўнікаў — залежыць кірунак далейшай дзейнасці Фронту і яго ўнутраны змест: секта альбо шырокі грамадскі рух.

З'езд пачнецца аб 11-ай гадзіне раніцы ў палацы культуры ААТ «Сукно». Рэгістрацыя кандыдатаў будзе распачатая дзвюма гадзінамі раней. Гэты з'езд ужо шосты ў адзінаццацігадовай гісторыі БНФ. Усе адзінаццаць гадоў пасаду старшыні нязменна займаў Зянон Пазьняк. У 1996 годзе ён пакінуў Беларусь, атрымаўшы палітычны прытулак у ЗША, і з таго часу з кожным месяцам колькасць праціўнікаў яго старшынства ўзрастала, а зараз дасягнула прыкладна 40 працэнтаў сяброў БНФ. Гэтыя людзі прытрымліваюцца пазіцыі так званай «антыпазьнякоўскай» кааліцыі, у якую ўваходзяць Вінцук Вячорка, Юрась Хадыка, Вячаслаў Сіўчык і іншыя. Сваёй мэтаю яны лічаць унутраную дэмакратызацыю Фронту і ператварэнне яго ў шырокі дэмакратычны рух.

Зараз абодвума бакамі праводзіцца «апрацоўка» дэлегатаў з мэтаю перацягнуць іх на свой бок.

Апошнім часам, праўда, меса рэальнага варыянту развіцця падзеяў заняла магчымасць стварэння з Зянона Пазьняка — «англійскай каралевы». Гэта значыць, фармальна з'яўляючыся старшынёю, рэальнай улады ён мець не будзе. Такі варыянт задавальняе абодва бакі, але сваю ролю могуць адыграць амбіцыі, і тады вынікам стане параза аднаго з бакоў, людзі якога, не прыняўшы гэтай паразы, проста пакінуць шэрагі БНФ. ■

МІЖНАРОДНАЯ ПАЛІТЫКА

## Лукашэнка ў ролі «яблыка разладу»

**Алесь АБРАМОВІЧ**

Восем буйнейшых міжнародных праваабарончых арганізацыяў звярнуліся да віцэ-прэзідэнта ЗША Альберта Гора з прапановай абмеркаваць беларускае пытанне падчас сустрэчы с расійскім прэм'ерам Сяргеем Сцяпашыным 27 ліпеня.

Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі занепакоеныя ўціскам грамадскіх і апазіцыйных групаў, а таксама незалежнай прэсы Беларусі. Паколькі Аляксандр Лукашэнка праводзіць палітыку інтэграцыі з Расіяй, праваабарончыя арганізацыі заклікалі віцэ-прэзідэнта ЗША Альберта Гора абмеркаваць сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі на перамовах з прэм'ер-міністрам Расіі Сяргеем Сцяпашыным. Праваабаронцы спадзяюцца, што кіраўніцтва Расіі пажадае выкарыстаць свой уплыў на беларускія ўлады, каб выказаць занепакоенасць «адсутнасцю асноўных правоў і свабодаў» у Беларусі і паспрыяць паляпшэнню сітуацыі. ■

# Ударнай працы не атрымаецца?

## Дэкрэт аб працоўнай дысцыпліне прафсаюзным дзеячам «не спадабаўся»


Фота Ю. ІВАНОЎ

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

У панядзелак Аляксандр Лукашэнка падпісаў нарэшце дэкрэт N29 «Аб дадатковых захадах па ўдасканаленні працоўных адносінаў, узмацненні працоўнай і выканальніцкай дысцыпліны». Гэты дэкрэт рыхтаваўся на працягу двух гадоў і выклікаў шматлікія хвалявання ў сярод працаўнікоў усіх галінаў — бо першапачаткова прадугледжваў вельмі значныя рэпрэсіўныя захады за драбнейшы праступак.

Цяперашні дэкрэт ужо пазбаўлены той жорсткасці, аднак прафсаюзы, закліканыя бараніць правы працоўных, крытыкуюць яго. Цікава, што ў сваім негатыўным стаўленні да дэкрэта аб'ядналіся і «афіцыйныя» прафсаюзы, і незалежныя.

Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык так пракаментаваў з'яўленне прэзідэнцкага дэкрэта: «Мы ўжо два гады выступаем супраць прынцыпу такога дэкрэта. Справа ў тым, што на ягонай падставе наёмныя працаўнікі аказваюцца неабароненымі. Дэкрэт прадугледжвае шмат адміністратыўных пакаранняў — адказнасць за спазненне на працу і г.д., але там мала механізмаў стымулявання працаўнікоў».


Уладзімір Ганчарык

Па словах Уладзіміра Ганчарыка, кепска тое, што ў дэкрэце адсутнічае норма пра падпісанне калектыўных дамоваў паміж працаўнікамі калектывамі і адміністрацыяй прадпрыемстваў.

Непрыемнай навіной для працоўных стане таксама пераход на кантрактную сістэму працы. Як паведаміў Уладзімір Ганчарык, раней кола супрацоўнікаў, якія мусілі падпісваць кантракты з прадпрыемствамі, было абмежаванае — дзяржаўныя чыноўнікі, пенсіянеры і некаторыя іншыя катэгорыі. Астатнія падпісвалі бестэрміновую працоўную дамову. Новы дэкрэт дае права адміністрацыі кожнага завода, фабрыкі ці навучальнай установы пераходзіць на кантрактную сістэму працы. Кантракт можа заключацца толькі на пэўны тэрмін, і такім чынам працаўнік заўсёды мае перад сабой пагрозу, што новы кантракт можа быць не падпісаны. А калі работнік адмовіцца падпісваць кантракт, то будзе адразу звольнены.

На думку У.Ганчарыка, у Кодэксе законаў аб працы дастаткова захадаў, каб забяспечыць належную працоўную дысцыпліну. Па словах старшыні ФПБ, прафсаюзы будуць звяртацца ў адміністрацыю прэзідэнта з патрабаваннем пераглядзець нормы дэкрэта, а таксама апеляваць да Нацыянальнага Сходу.

Прэзідэнт Свабоднага прафсаюза беларускага Генадзь Быкаў выказаўся яшчэ болей катэгарычна: «Па гэтым дэкрэце працаўнік трапляе ў поўную залежнасць ад працадаўца, становіцца бяспраўным. Таму свабодныя прафсаюзы выступаюць катэгарычна супраць яго.

Кантракт, які працаўнік мусіць заключыць з прадпрыемствам, — ён жа будзе складацца дырэктарам. І я ўпэўнены, што дырэктар запіша ў той кантракт усё, што захоча. А ў працоўных не будзе выбару. І 99% кантракт падпішуць.

Акрамя таго, прафсаюзы ўжо не змогуць так абараняць інтарэсы працоўных — па-першае, тыя будуць звязаныя сваім контрактам, а па-другое, самі прафсаюзныя актывісты таксама будуць вымушаныя гэты кантракт падпісаць і апынуцца пад пагрозай звальнення за сваю дзейнасць.

Тым не менш, мы збіраемся аказваць дапамогу працоўным, сачыць, каб кожны кантракт цалкам адпавядаў Кодэксу законаў аб працы і таксама ўплываць на дырэктараў — новы дэкрэт дае нам некаторыя магчымасці гэта рабіць». ■


Генадзь Быкаў

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Новыя маршруты гродзенскіх самалётаў

Заўтра Гродзенскі аэрапорт адкрывае новыя накірункі. З 31 ліпеня з Гродна можна будзе патрапіць самалётам у Мінск, Брэст, Магілёў і нават у Сімферопаль. За 30-хвіліннае падарожжа з Гродна ў Мінск на самалёце ЯК-40 трэба будзе заплаціць 2 мільёны 100 тысяч рублёў, а за квіток «туды і назад» — 3 мільёны 900 тысяч рублёў. Пералёты ў сталіцу будуць ажыццяўляцца па серадах і суботах.

### Косаўцы вяртаюцца на радзіму

Як паведаміў прадстаўнік NATO Джэмі Шы, на сённяшні дзень 92% косаўскіх уцекачоў вярнуліся на радзіму. Колькасць уцекачоў у Албаніі зменшылася з 440.000 да 20.000.

*Расціслаў ПЕРМЯКОЎ*

### Рок-канцэрт пераносіцца

Арганізатары рок-акцыі «Моладзь за незалежную Беларусь», у якой планавалі ўзяць удзел самыя вядомыя беларускія рок-гурты, вырашылі перанесці імпрэзу з 28 ліпеня на іншы дзень. Прычынай стала указанне Мінгарвыканкама перанесці места правядзення з плошчы ля Опернага тэатра на былую пляцоўку цырка «Шапіто», што па вуліцы Арлоўскай. Гэтая пляцоўка хутчэй нагадвае сметнік, чым места для канцэрта, і таму зараз вядуцца перамовы з кіраўніцтвам парка імя 50-годдзя Кастрычніка, каб правесці рок-канцэрт на іхняй пляцоўцы.

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ*

наша свабода

НАДВОР'Е




**29 і 30 ліпеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі 29 ліпеня па **Гомельскай, Магілёўскай, Віцебскай** і ўсходзе **Мінскай** абласцей кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўночны, паўночна-заходні, 5—10 м/сек., пры навальніцах да 14 м/сек. Тэмпература ноччу 9—14 градусаў, 29 ліпеня па **Мінскай** 11—16, па **Гомельскай, Магілёўскай** і **Віцебскай** абласцях —12—17.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



АРЫЕНЦІР

# Жанчыны выходзяць наперад

Алеся БЛАНК

**Кожную вясну ў пачатку траўня ў амерыканскім навучальным асяродку Брайант-коледж праходзяць традыцыйныя жаночыя саміты, мэта якіх — абмеркаваць ідэі і праграмы падтрымкі жаночай кар'еры. Тэма самай апошняй жаночай сустрэчы — «Жанчыны ля стырна. Навігацыя пераменаў праз эфектыўнае лідэрства». У сустрэчы прынялі ўдзел больш за 500 жанчын. Людміла Пеціна, лідэр Жаночага незалежнага дэмакратычнага руху Беларусі, дырэктар Жаночага адукацыйна-кансультацыйнага цэнтра ў Мінску, была адзінай прадстаўніцай ад Беларусі і ўзначальвала падчас работы саміта секцыю «Жанчыны ў новых незалежных краінах. Насуперак стэрэатыпам».**

«Будучыня належыць жанчынам» — за гэтую ідэю феміністкі ўсяго свету актыўна змагаюцца з часоў Клары Цэткін. У апошнія 20 гадоў прадстаўніцы жаночага руху як за мяжой, так і ў нашай айчыне падмацоўваюць тэзіс пераканаўчай статыстычнай аргументацыяй: мужчыны ніколькі не меней за жанчын схільныя да хваробаў, яны значна больш ужываюць наркотыкі і алкаголь, значна часцей заканчваюць жыццё самагубствам. У колькасных адносінах жанчыны больш адукаваныя. Увогуле дзяўчынкі раней пачынаюць гаварыць і вучацца ў школе значна лепш за хлопчыкаў. Толькі вось, цікавая акалічнасць, сёння ў свеце жанчыны валодаюць усяго толькі адным(!) працэнтам уласнасці, выконваючы пры гэтым 90 працэнтаў работы. Нават і ў развітых заходніх краінах кіруючыя пазіцыі ў палітыцы, эканоміцы, навуцы, як і раней, займаюць пераважна мужчыны. Ацэньваючы дынаміку гэтак званага жаночага прасоўвання ў грамадстве, даследчыкі (дакладней, даследчыцы) параўноўваюць яе з тэмпамі чарапашага руху.

Нямецкі сацыёлаг Анетэ Майхофэр параўноўвае ступень рашэння жаночага пытання са ступенню дэмакратызацыі грамадства ўвогуле. Бясспрэчным дасягненнем феміністак Германіі яна лічыць заваёвы на вербальным узроўні — у мове. Ужо на працягу дзесяцігоддзяў у ФРГ да незамужніх жанчын звяртаюцца, так як і да замужніх, са словам «фрау», а не «фройляйн». Такім чынам многія жанчыны пазбавіліся комплексу і не лічаць, што іх статус адзінокіх горшы за статус тых, у каго ёсць сем'і. Сярод лінгвістычных перамогаў і тое, што ў нямецкай мове словы «кіраўнік», «лідэр», «дырэктар», «шэф», «навуковец», «прафесар» і г.д. у якасці нарматыва ўжываюцца не толькі ў мужчынскім, але і ў жаночым родзе. (Чаго не скажаш пра беларускую альбо рускую мовы.) Што тычыцца іншага, невербальнага ўзроўню, то тут, паводле Майхофэр, дасягненні сціплыя. На яе думку, у большасці заходніх краінаў на ўзроўні дзяржаўнай палітыкі па-ранейшаму падтрымліваецца сямейная жанчына (дзіцячыя льготы, крэдыты), а значыць, яе пасіўная роля ў грамадстве. Нягледзячы на тое, што ўсё больш шлюбаў распадаецца і ўсё больш жанчын жыве самастойна, што ўсё больш дзяцей выхоўваецца без мужчыны і ўсё больш адзінокіх маці знаходзяцца на самай нізкай сацыяльнай прыступцы. Паводле шведскай даследчыцы Марыі Якабсан, жаночую кар'еру ў грамадстве стрымлівае не толькі дзяржаўная палітыка, але і гэтак званыя стэрэатыпы жаночага вобразу, якія фармуюцца ў грамадстве шляхам рэкламы, моды, СМІ.

У грамадстве зараз пачынаюць культывавацца бізнес-інкубатары. Іх мэта, з аднаго боку, даць неабходныя веды, а з другога — дапамагчы жанчынам зрабіць першыя крокі ў бізнесе. Вельмі важная дэталь — дыпломы такіх бізнес-школаў з'яўляюцца гарантыямі атрымання дзяржаўных крэдытаў.

Распрацоўваючы ідэю жаночых бізнес-інкубатараў, амерыканцы, зразумела, пралічвалі іх эфектыўнасць, зыходзячы менавіта з пэўных жаночых рысаў — адказнасці, руплівасці, прадбачлівасці... У якасці магчымага плюса разглядалася і тое, што жанчына меней схільная да рызыкі. Цікава, што, паводле амерыканскіх даследаванняў, мужчыны ў гэтай краіне з ахвотай ідуць на супрацоўніцтва з жанчынамі-бізнесменамі, прычым не толькі з суайчынніцамі, але нават з тымі, хто працуе на постсавецкай прасторы.

...Даклад, з якім на саміце выступала Л.Пеціна, працягваўся 40 хвілінаў і выклікаў вялікую цікавасць з боку заходніх удзельніцаў. Выступленне стала свайго роду адказам на пытанне, чаму ў Беларусі, іншых маладых краінах не вітаецца поспех жанчыны-кіраўніка, чаму ў грамадстве апрыорна не давяраюць жанчыне. У беларускім кабінеце міністраў усяго толькі адзін партфель належыць прадстаўніцы жаночага полу.

Пеціна: «Справа ў тым, што нашае грамадства ўсё яшчэ жыве старымі патрыярхальнымі стэрэатыпамі, пры гэтым жанчыне традыцыйна адводзіцца другасная роля... Калі браць савецкую практыку, то ў нас былі ў асноўным жанчыны — не ведаю, як правільна па-беларуску — «вылучэнкі» і «прызначэнкі». Наўрад ці гэтыя жанчыны валодалі эфектыўнымі тэхналогіямі. Яны прасоўваліся па службовай лесвіцы, таму што мелі, з аднаго боку, якасці прыстасаванак, а з другога — уплывовых сваякоў. Гэтая сістэма працавала ў савецкі перыяд і працягвае часткова працаваць цяпер. У апошні час, безумоўна, з'явіліся новыя тыпы жанчын-лідэраў. У палітыцы — гэта лідэры, якія не прызначаюцца. Яны працуюць у новых партыях, у новых грамадскіх аб'яднаннях. У бізнесе гэта жанчыны, якія праявілі сябе як добрыя прафесіяналы. Аднак па меры прасоўвання жанчын у грамадстве ўсё часцей можна пачуць ад нашых суайчыннікаў: «Я не хачу працаваць з ёй, таму што гэта жанчына». Усё шырэй распаўсюджваецца такі стэрэатып: «жанчына-кіраўнік — гэта монстр». Сапраўды, у пэўнай ступені большасць жанчын, якія



дасягнулі поспеху, маюць даволі жорсткі характар. На жаль,у нас яшчэ не ўкаранёныя такія заходнія мадэлі, як «бізнес-інкубатары», «школы жанчын-палітыкаў». Калі раней, робячы кар'еру, жанчына гаварыла «не» моднаму іміджу, не звяртала ўвагі на калекцыі папулярных куцюр'е, то цяпер яна вымушаная ўсё часцей гаварыць «так» — сядзець на дыетах, займацца шэйпінгам, наведваць касметычныя кабінеты і нават карыстацца паслугамі пластычных хірургаў. Бо кар'ера жанчыны ў пэўнай ступені залежыць ад падабенства моднаму вобразу, які прыдумаў, распрацаваў і ўкараніў у масавы густ мужчына.

Канешне, прызнаюць феміністкі, не ўсё так ужо і безнадзейна. У якасці пазітыўных прыкладаў даследчыцы жаночай тэмы прыводзяць краіны Скандынавіі, дзе ключавыя пазіцыі ва ўрадавых кабінетах займаюць да 50 працэнтаў жанчын, а таксама ЗША, дзе ва універсітэтах і розных навуковых цэнтрах распрацоўваюцца надзвычайныя тэхналогіі ў прасоўванні жанчын у палітыцы і бізнесе.

«Галоўны вывад гэтай сустрэчы — прагрэс у жаночым руху ўсё ж такі ёсць, — лічыць Л.Пеціна.

— Што тычыцца ЗША, то больш за ўсё ён назіраецца ў бізнесе. Амерыканскія жанчыны валодаюць 8-мю мільёнамі фірмаў. Іншымі словамі, 50 працэнтаў кіраўнікоў малога бізнесу — прадстаўніцы гэтак званага слабага полу». Характэрна, што 20 гадоў таму на чале амерыканскіх фірмаў стаяла ўсяго 5 працэнтаў жанчын. Канешне, такі прагрэс не прыйшоў сам сабой. Выступаючы на саміце, вядомыя лідэры жаночага бізнесу — прэзідэнт буйной кансалтынгавай кампаніі О.Гедыш, былая афраамерыканская мадэль, а цяпер уладальніца найбольш папулярных рэстаранаў і гатэляў у Нью-Йорку і Вашынгтоне В.Сміт, кіраўнік буйной кампаніі па вытворчасці мэблі, якая адначасова з'яўляецца заканадаўцам моды ў мэблевым дызайне, Дж.Джордж — былі аднадушныя ў ацэнцы ролі спецыяльных жаночых праграмаў, распрацаваных амерыканскімі навукоўцамі. Напрыклад, неабходнага фармавання ў жанчын стылю паводзінаў для таго, каб тыя адмовіліся ад аўтарытарнага кіраўніцтва і зрабілі супрацоўнікаў сваімі паплечнікамі. Падчас работы саміта ў Брайант-коледжы амерыканскія калегі прапанавалі Л.Пеціной свае тэхналогіі, кансультацыйныя паслугі ў стварэнні падобных структураў у Беларусі. Натхнёная амерыканскімі ідэямі, Л.Пеціна распавяла пра свае праекты вядомаму беларускаму палітыку-дэмакрату (мужчыне). Той ухваліў ідэю. «Вось і добра, рыхтуй сваіх дзевак. У адказны момант мы кінем на камуністаў, каб яны спакусілі нашых палітычных канкурэнтаў». «На ўзроўні масавай свядомасці пра жаночае пытанне мы, жанчыны, цяжка сказаць дзе знаходзімся», — лічыць Л.Пеціна. ■

# Трэцяга шляху да рынку не існуе

Мілтан ФРЫДМАН,
старшы даследчык Інстытута Гувера,
Нобелеўскі лаўрэат у галіне эканомікі

**Сёння да рынку ставяцца альбо як да абсалютнага трыумфу, альбо як да сур'ёзнай пагрозы. Палітыкі ва ўсім свеце памкнуліся на пошукі «трэцяга шляху» ў абыход складанасцяў рынку, сумуючы па «нацыянальных чэмпіёнах» у такіх сферах індустрыі, як тэлекамунікацыі, што здольныя стрымаць глабалізацыю. Аднак рынак з'яўляецца простым механізмам, які можна прымяніць для дасягнення любых мэтаў. У залежнасці ад метаду яго выкарыстання, рынак можа зрабіць унёсак у сацыяльнае і эканамічнае развіццё або перашкодзіць яму.**

Пытанне аб тым, ці варта прымяняць рынак, не з'яўляецца істотным. Кожная супольнасць — камуністычная, сацыялістычная або капіталістычная — так ці інакш карыстаецца рынкам. Істотным з'яўляецца пытанне аб прыватнай уласнасці. Хто з'яўляецца ўдзельнікамі рынку і ад чыёй асобы яны дзейнічаюць? Магчыма, што гэта — урадавыя бюракраты, якія дзейнічаюць ад асобы дзяржавы. Альбо гэта — індывідуумы, якія працуюць самі на сябе.

Аднойчы падчас майго візіту ў Кітай намеснік міністра спытаў мяне: «Хто ў Амерыцы адказвае за размеркаванне сыравіны?» Хоць гэтае пытанне і збянтэжыла мяне, яно было цалкам натуральнае. Таму што нельга чакаць, што грамадзянін краіны з камандна-адміністратыўнай эканомікай здольны зразумець, як рынак размяркоўвае сыравіну сярод мільёнаў людзей для тысячы мэтаў без якога-небудзь умяшальніцтва палітыкі.

Увядзенне больш дзейсных рыначных механізмаў можа быць часткова ці абсалютна марным з-за надта абмежаваных пераменаў, якія можна цяпер назіраць у мяркуемым буме зліцця ў Еўропе. Возьмем гісторыю дэрэгулявання амерыканскіх авіяліній 20 гадоў таму. Яно ўзмацніла канкурэнцыю, што ў выніку прывяло да падзення коштаў і ўвядзення новых паслугаў.

Хоць авіялініі ЗША былі прыватызаваныя — г.зн. вызваленыя ад дзяржаўнага кантролю, — аэрапорты заставаліся непрыватызаванымі. Урад па-ранейшаму валодаў і кіраваў імі. Як толькі выкліканы рэформай попыт на пералёты ўзрос, пачасціліся затрымкі рэйсаў у аэрапортах. Урад абвінавачваў прыватныя авіякампаніі. Лепшым рашэннем магла стаць прыватызацыя аэрапортаў, як гэта ўжо зрабіла Вялікабрытанія і як збіраюцца рабіць Італія і Польшча.

Прыватызацыя некаторых сфераў вытворчасці і адначасовае ўтрыманне цэнаў пад кантролем дзяржавы з'яўляецца яшчэ адной палавінчатай мерай. Няздольнасць цэнаў адпавядаць іх рынкавай вартасці робіць прыватнае прадпрымальніцтва, нават калі яно эфектыўнае, сацыяльна бескарысным. У Пенджабе ў Індыі існаваў завод, які выпрабляў веласіпеды. Дзяржава нармавала выдачу сталі вытворцам замест таго, каб прадаваць яе па рынкавым кошце. Вытворца не мог атрымаць неабходную колькасць сталі па афіцыйным кошце. Аднак існаваў прыватны рынак перапрацаванай і неперапрацаванай сталі. Таму вытворца веласіпедаў дапаўняў тую норму сталі, што атрымліваў, закупкамі напаўперапрацаванай сталі, якую ён пасля пераплаўляў, што наўрад ці можна лічыць эфектыўным спосабам ператварэння жалезнай руды і вугалю ў веласіпеды.

Калі «трэці шлях» і мае нейкі сэнс, то ён заключаецца ў спосабах пераадолення палітычных перашкодаў да пашырэння рынку. Небяспека тут не толькі ў тым, што такія перашкоды будуць супрацьстаяць спробам вызваліць рынак, але таксама і ў тым, што пераадоленне палітычных перашкодаў разбурыць перавагі вызвалення рынку. Праблема ў тым, каб пераадолець такія перашкоды і не выклікаць пры гэтым непажаданых наступстваў.

Адным са спосабаў пераадолець апазіцыю прыватызаванню з'яўляецца ідэнтыфікацыя патэнцыйных апанентаў і залучэнне іх на свой бок пры дапамозе, напрыклад, акцыянернага валодання — метадам папулісцкага капіталізму, у якім так знаная місіс Тэтчэр. Аднак тут неабходна апасацца адной пасткі, якая можа ўзнікнуць у выніку «падсалоджвання» здзелкі за кошт ператварэння дзяржаўнай манаполіі ў прыватную, што само па сабе з'яўляецца паляпшэннем становішча ў цэлым, але не дасягае жаданага выніку. Праблемы пераадолення канстытуцыйных інтарэсаў і тармозячага фактару рэнты могуць узнікнуць амаль пры кожнай спробе змяніць урадавую палітыку, датычыцца гэта прыватызацыі тэлекамунікацыяў ці зніжэння датацыяў фермерству. Гэтая тыранія статус-кво з'яўляецца галоўнай прычынай, дзякуючы якой палітычныя механізмы менш эфектыўныя, чым механізмы свабоднага рынку для правядзення дынамічнай перамены або для развіцця эканамічнага росту і росквіту.

Існуе некалькі правілаў для пераадолення гэтай тыраніі статус кво. Але зразумела адно: калі ўрадавая дзейнасць павінна быць прыватызаваная ці зліквідаваная, рабіце гэта да канца. Не ўступайце ў кампраміс частковай прыватызацыі або частковага змякчэння дзяржаўнага кантролю. Пры дапамозе гэтага вы проста пакідаеце на месцы ядро пэўным чынам настроеных апанентаў, якія будуць працаваць шчыра (і часткова паспяхова) для павароту перамены назад.

**Copyright: Project Syndicate, June 1999**

ПРАФСАЮЗЫ

# Восень-99 пройдзе пад лозунгам адстаўкі ўрада

Рыгор БУЯН

Хоць Лукашэнка не збіраецца мяняць цяперашні Саўмін да 2001 года, тры прафсаюзы, якія ўваходзяць у ФПБ, заявілі аб сваёй гатоўнасці ў верасні-кастрычніку вывесці на вуліцу людзей і дабівацца адстаўкі ўрада. «Калі ўрад не можа вырашыць эканамічныя праблемы, яму трэба сыходзіць у адстаўку», — адзначыў старшыня прафсаюза аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Аляксандр Бухвостаў. Праўда, па традыцыі прафсаюзы зрабілі шэраг агаворак.

Ва ўрада, па словах А.Бухвостава, ёсць яшчэ час да верасня, каб пазбегнуць адстаўкі. Калі ўлады спыняць рост цэнаў і інфляцыю, калі ў верасні заробак будзе падняты ў 2—2,5 разы, калі будзе перагледжаная сістэма падаткаабкладання і зніжаны падатковы прэс на грамадзянаў і прамысловыя прадпрыемствы, — прафсаюзы не стануць дабівацца адстаўкі Саўміна.

Нягледзячы на баявы настрой лідэраў афіцыйных прафсаюзаў, які яны зацята дэманструюць на працягу апошніх гадоў, прэзідэнт Лукашэнка не збіраецца мяняць цяперашні склад Саўміна да 2001 года. У інтэрв'ю «Інтэрфаксу» ён заявіў наступнае: «Я не магу сказаць, што ў нас у рэспубліцы дрэнны склад Савета міністраў. Вывады з тагачаснай (пасля фінансавага абвалу ў Расіі 17 жніўня 1998 года. — *Рэд.*) сітуацыі зрабілі для сябе многія кіраўнікі ўрада. Па меншай меры да наступных прэзідэнцкіх выбараў, якія пройдуць у 2001 годзе, цяперашні яго склад будзе працаваць».

Ведаючы хваравітае стаўленне кіраўніка дзяржавы да любой крытыкі, можна не сумнявацца, што ён касцьмі ляжа, а свайго даб'ецца. І таму ўжо цяпер можна прагназаваць, што дэкларацыі афіцыйных прафсаюзаў наконт «гарачай восені» і адстаўкі Саўміна стануць пустым гукам. Зрэшты, як і заўсёды. ■

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



ГРАМАДСТВА

# Бутылочный бизнес

**Алексей ШИДЛОВСКИЙ**

Один мой знакомый, провинциал, пошутил как-то, мол, в Минске, когда бутылку из-под пива выбрасываешь, она до земли не долетает — на ходу перехватывают.

А ведь он прав. В последнее время «бутылочным бизнесом» занялось такое количество людей, причем совсем не обязательно бомжей, что порой в голове начинаешь подсчитывать, что же более выгодно, работать, к примеру, учителем в школе, или собирать бутылки в районе железнодорожного вокзала. Получается, последнее.

В приватной беседе бабка Маша, как она сама назвалась, призналась, что за световой день удается собрать и сдать порядка 70–80 бутылок различной стоимости. Работать, правда, приходится все 30 дней месяца. Пропустишь день, а потом объясняй конкуренту или конкурентке, что «вас тут не стояло». Итого за день выходит минимум 800 тысяч рублей, а за месяц — все 25 миллионов. У учителей — в 1,5–2 раза меньше. Правда, и работа тут тоже нервная. На первый взгляд, чего уж там — ходи да подбирай, ан нет. Вспомните сами, бывало, только откроешь бутылочку лимонада, а бабуля (дедуля) тут как тут: «Бутылочку не оставите?» Некоторые так и стоят рядом, смотрят в рот, чтобы не упустить добычу. Отойдешь — конкурент перехватит. А конкуренция тут сильная. На участке (площадь, небольшой сквер, часть улицы) действует, как правило, 5–6 собирателей. Летом, конечно же, желающих становится больше, из-за чего происходит «передел сфер влияния». Седые старички и безропотные до того бабульки-божьи одуванчики, любящие в общественном транспорте порассуждать об уровне нравственного падения молодежи и оппозиции, тут дают выход эмоциям. Дерутся до крови, с рыком и матом, жертвуя самым дорогим — бутылками, которые приходится разбивать о вражьи головы. Потом зачастую следуют две недели с хвостиком в «местах не столь отдаленных», куда бравых бомжей, безработных, пенсионеров и даже «подрабатывающих» в свободное время рабочих упекает столь несвоевременно подъехавший наряд милиции.

Стандартная пивная бутылка (0,5 литра) стоит 12 тысяч рублей. У «собирателей», как у зэков об амнистии, постоянно ходит слух об очередном подорожании «стеклянной валюты». А слух, пущенный в 1997-м, о том, что вскоре бутылки вообще перестанут принимать, навел такую панику, что многие задумались о смене «профессии».

Самые излюбленные места «собирателей» — железнодорожный вокзал, площадь Якуба Коласа возле филармонии, Михайловский сквер.

А настоящий праздник у бутылочных «королей» и «королев» наступает во время массовых гуляний — Дня Города, к примеру, или крупного футбольного матча. После этого в пункты сдачи стеклотары вырастают очереди почище «продуктовых» времен Михаила Сергеевича.

Какая мораль? Думаете, я хочу в очередной раз сказать о том, как низко пало наше общество? Да нет, устал уже муссировать эту тему. Просто придите однажды в Михайловский сквер с бутылкой пива и понаблюдайте за происходящим вокруг. Забавная, я вам скажу, картинка! ■



АДУКАЦЫЯ

# Двойку заменіць нуль

## З гэтага года ў некаторых школах ацэньваць веды вучняў будуць па новай сістэме

**Марына КУНОЎСКАЯ**

У 1999-2000 навучальным годзе ў шэрагу школ Беларусі пройдзе эксперыментальную праверку новая сістэма ацэнкі ведаў вучняў. Мэта новаўвядзення — вялікая дыферэнцыяцыя ў вызначэнні ўзроўню ведаў, улік розніцы ў нагрузцы ў звычайных і спецыялізаваных класах, выкарыстанне ацэнак для стымулявання вучобы. У новай 10-бальнай шкале адмоўных ацэнак не прадугледжваецца наогул: ранейшай «двойцы» будзе адпавядаць 0 балаў. Іншыя ацэнкі адпавядаюць цяперашняй шкале, якую настаўнікі даўно пашыраюць інтуітыўна, пры дапамозе абазначэнняў накшталт «з з мінусам» або «4 з плюсам».

Гэтая мадэль была прапанавана на разгляд педагагічнай грамадскасці ў лютым бягучага года міністрам адукацыі Беларусі Васілём Стражавым. На думку міністра, для эксперыментальнай праверкі новаўвядзення неабходна некалькі гадоў, прычым, гэтая сістэма пакуль можа прымяняцца толькі для бягучых ацэнак, а выніковыя балы павінны выстаўляцца ў прывычным дыяпазоне. ■

ТЭНДЭНЦЫІ

# Стоит ли Беларуси ссориться с NATO?

**В странах бывшего СССР, в том числе и в Беларуси, NATO чаще всего воспринимается как агрессивный блок. Это, безусловно, результат многолетнего «лечения» наших народов коммунистической пропагандой. Между тем, NATO организовывалось в 1949 году и действует по сей день сугубо как организация оборонного характера.**

Давайте разберемся, что же такое NATO и кто в него входит. NATO, или Североатлантический альянс — это международная военная организация, призванная отстаивать и защищать интересы демократии в целом, а также интересы граждан ее стран-участниц. Сейчас в NATO входят 19 государств, среди которых США, Канада, Германия, Франция, Великобритания, Бельгия и т.д. Совсем недавно в альянс вступили три бывшие соцстраны — Венгрия, Чехия и Польша. Все эти государства объединены не только одной военной организацией, но и общими ценностями, такими, как свобода слова, демократия, права человека, свобода СМИ, свобода выборов и т .д. Чтобы стать членом NATO, недостаточно просто иметь вооруженные силы, надо еще развивать и поощрять в своей стране рыночную экономику, а также уважать такое понятие, как собственность. Основное отличие NATO от «заступника» стран бывшего соцлагеря – почившего в бозе Варшавского договора, кстати, организации куда более самоуверенной и агрессивной, — состоит в том, что любая страна принимает решение о том, вступать ли ей в NATO или нет, самостоятельно и добровольно.

В 19-ти странах-членах NATO живет порядка одного миллиарда человек. Это если не считать населения стран-партнеров NATO, участников программы «Партнерство ради мира». В руках этого миллиарда – около 80% финансовых, материальных и других ресурсов нашей Земли. Это и неудивительно: эти 19 государств составляют костяк самых развитых в экономическом отношении стран.

Понятно, что NATO как организация, отстаивающая интересы этих стран, – хорошо финансируемая, прекрасно вооруженная, организованная и отлаженная военная машина.

Можно любить NATO. Можно не любить NATO. Можно решительно поддерживать военную кампанию NATO в Югославии, можно с той же решительностью ее осуждать. Неоспорим лишь один факт: с NATO нельзя не считаться.

Давайте же мы, белорусы, будем оценивать себя и свои силы адекватно. Наша нация в мировом масштабе очень маленькая – всего 10 миллионов человек. Это совсем не плохо, есть нации и поменьше. Сегодня мы бедны. Сегодня мы обессилены коммунистическим и другими «народными» режимами. Наша армия не так сильна. И ее сила определяется отнюдь не эффектностью рекламных роликов Белорусского телевидения. Боеспособность вооруженных сил – это не решительность солдат с измазанными маскировочной краской лицами и не розовый цвет дымовых шашек – это, прежде всего, современные технологии, новизна используемой боевой техники и четко организованное материально-техническое снабжение. Чтобы добиться действительной боеспособности вооруженных сил, необходимы огромные финансовые вложения. Вложения, которых у нас сейчас по причине экономического кризиса нет.

Подумайте, что может «навоевать» полковник белорусской армии, у которого зарплата 40 долларов в месяц, двое детей, безработная жена и вечные проблемы с жильем? А боевая техника? Ведь технологии не стоят на месте. Я бы сказал, что они очень даже быстро бегут. 20–30-летний танк – это уже не танк в современной войне. 10-летняя установка ПВО – не более чем устройство для распугивания ворон. Полную беспомощность, кстати, проявила в последнем военном конфликте на Балканах система ПВО Югославской армии против современных и маневренных NATOвских истребителей: по одним данным, не было сбито ни одного самолета, по другим – был сбит один F16 в начале кампании (но никак не 75, как утверждали сербы). И это-то почти за три месяца непрерывных бомбардировок. Почему же такой беспомощной оказалась ПВО армии Милошевича? Да потому, что очень старенькая. А новую ПВО обессиленная «мудрым» руководством югославского президента экономика этой страны позволить себе не может. Состояние армии отражает лишь общее состояние экономики. Это бесспорно.

На мой взгляд, нам нужно найти мужество признаться себе: нашей армии в своем нынешнем состоянии тягаться с NATO не по силам.

И потому, когда Александр Лукашенко начинает трясти кулаком в сторону NATO, – это даже не моська лает на слона, это комар на него пищит. Другое дело, если он получит место на российском политическом Олимпе и доступ к ядерной кнопке. Тогда конфронтация с Западом может достигнуть своего апогея.

Но тогда встает другой вопрос: а нужно ли все это нам, белорусам? Нам что, недостаточно Великой Отечественной? Или мы мало людей положили в последней войне? По-моему, вывод напрашивается один: с NATO не нужно ссориться, с NATO надо сотрудничать.

Альянсом руководят отнюдь не чудовища, не вампиры и не циклопы, как нам порой их преподносит официальная белорусская пропаганда. Хавьер Солана, Уэсли Кларк, Джеми Ши, Вальтер Йертс и др. – образованные, опытные и разумные люди, с которыми можно и нужно договариваться. Искать и находить точки соприкосновения, согласовывать наши, белорусские, интересы с их, NATOвскими. Если, конечно, нас интересует будущее белорусского народа, а не отдельных представителей власти.

Уже сотрудничает с NATO наша соседка Украина, имеющая в этой организации свою миссию из 10-ти человек. Отличные, приятные ребята. Я с ними лично знаком. И содержание их там, между прочим, оплачивается из государственного бюджета Украины. Почему? А просто эта страна ищет эти самые точки соприкосновения, потому что не хочет войны для своего народа.

Будучи в Брюсселе, я стал невольным свидетелем одного трогательного эпизода, о котором хотел бы рассказать. В один из дней я, как обычно, направлялся, чтобы сделать репортаж для Беларуси, на очередной брифинг в штаб-квартиру NATO на бульвар Леопольда III. В брюссельском городском автобусе № 65, следующем по маршруту "Де Брукер – N.A.T.O.», вместе со мной ехали две пожилые женщины-польки. Всю дорогу они что-то оживленно обсуждали на польском и смеялись. К штаб-квартире мы подошли вместе. Пока я оформлял пропуск, эти женщины, увидев свой бело-красный национальный флаг в компании 19-ти других флагов стран-членов NATO, сначала сфотографировались на его фоне несколько раз, а потом обнялись и... начали плакать. Они плакали от счастья. Вот так и стояли эти две пожилые польки на фоне своего флага, стояли и плакали возле штаб-квартиры NATO. Под изумленными взглядами натовских солдат.

А я подумал: неужели они, поляки, так уж отличаются от нас, белорусов? И сколько же нам еще нужно пережить царей, председателей, прочих президентов, чтобы понять, наконец, одну непреложную истину: ничего путного нельзя построить на ненависти. В том числе, к NATO. Да и к Западу в целом.

**Александр СИЛИЧ, Хартия'97, Брюссель, специально для газеты НАВІНЫ**



● Джеми Ши — пресс-секретарь Североатлантического альянса




«Болта», «Аліса ў краіне цудаў», «Прыгажуня ў сонным лесе» — мультыплікацыйныя фільмы, дубляваныя па-беларуску акторамі вядучых менскіх тэатраў. «Ехаў казачнік Бай», «Беларускія народныя казкі», «Стойкі алавяны салдацік», «Каліф-бусел», «Цік-так ходзікі» — аўдыёкасэты для маленькіх з вершамі, казкамі, песьнямі.

Кошт відэакасэты — **800 тыс.руб.**, кошт аўдыёкасэты — **300 тыс.руб.**

Касэты можна атрымаць, пералічыўшы грошы звычайным паштовым пераводам на рахунак: **ЗАТ «Сотвар р/р 2120000000541 у філіі 506 ААБ «Беларусбанк», код 809**. У графе «Для пісьмовага паведамлення» напішыце, якую касэту Вы замаўляеце. Менчукоў просім тэлефанаваць: **228-45-88, 228-45-87**.


© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 577 Нумар падпісаны ў друк 27/07/99 (15:00) Наклад — [illegible]

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012